РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
Янка Купала.

Free Hlybokaye

*Бярозы пах і пах аеру,*
*Глыток сцюдзёнае вады.*
*Трымай для шчасця*
*насцеж дзверы,*
*Як і падкову – ад бяды*

**В.Гарановіч "Беразвечча"**

**Выдаецца са снежня 1994 года. № 9(69), ліпень, 2001 года. Кошт па дамове**

## «Вольнае Глыбокае» з праграмай тэлеперадач

Памятаеце, паважаныя чытачы, яшчэ ў пачатку года мы пісалі аб нашых рэдакцыйных планах? Спадзяёмся, што яны змогуць рэалізавацца ў бліжэйшай будучыні. Са жніўня «Вольнае Глыбокае» будзе выходзіць раз на тыдзень. Да таго ж, у газеце будзе каляровы ўкладыш з праграмай тэлеперадач. Газета будзе паступаць у продаж у чацвер. Набыць яе можна будзе ва ўсіх кіёсках «Саюздруку» і ў прыватных распаўсюджвальнікаў. Аб'явы пакуль будуць прымацца і змяшчацца бясплатна.

Для таго, каб нашу газету з цікавасцю чыталі людзі розных узростаў, прафесій, палітычнай арыентацыі, веравызнанняў, патрэбна шмат аўтараў, якія б пісалі кожны пра сваё і для ўсіх. З мэтай пашырэння аўтарскай сеткі пры рэдакцыі са жніўня пачынае працаваць школа журналістыкі, дзе будуць праходзіць як тэарэтычныя, так і практычная знанякі, ладзіцца сустрэчы са спецыялістамі з Мінска, Віцебска, Наваполацка,Гродна. Будуць сустрэчы і абмен вопытам у рэдакцыях незалежных газет.

Вельмі да месца пытанне: «як трапіць у школу журналістыкі?»

Без праблем у школу трапяць рэгіянальныя аўтары, якія не маюць журналісцкай падрыхтоўкі, але ўжо шмат часу дапамагаюць нам цікавымі матэрыяламі. *А для ўсіх астатніх жадаючых супрацоўнічаць з намі мы аб'яўляем творчы конкурс на тэму **«Я ў дваццаць першым стагоддзі»**. У дадатак напішыце крыху пра сябе, чым займаецеся, чым цікавіцеся, якія Вашы мары, кім Вы бачыце сябе ў новым стагоддзі, што б Вы хацелі змяніць у цяперашнім жыцці. Не трэба пісаць на дзесятках лістоў. Памятайце, што сціеласць -- сястра таленту. Змясціце свае думкі і разважанні ў сотні-другой радкоў і дашліце нам. Самыя лепшыя творы мы абавязкова надрукуем у «Вольным Глыбокім», а іх аўтараў запросім у школу журналістыкі, а крыху пазней і да супрацоўніцтва.*

*Акрамя зададзенай тэмы можаце дасылаць артыкулы на тэмы, якія вас найбольш хваляюць. Можна дасылаць вершы, малюнкі, карыкатуры, графіку... Адным словам, чакаем новых ідэй і новых аўтараў.*

Чытайце «Вольнае Глыбокае» і прывучайцеся жыць і думаць па-новаму!

*Г.Сутула*

## Прывітанне з Канады

Наш паважаны зямляк-беларус Кастусь Акула, які жыве ў Таронта і шмат дапамагае «Вольнаму Глыбокаму», даслаў нам ліст, у якім ёсць і купальскае віншаванне: *"жадаю вам добра сустрэць ноч з папараць-кветкай ды з моладдзю. Я выгадаваў папараць у сваім агародзе ззаду, побач малінаў, дык нікуды не пайду шукаць кветкі".*

Дзякуем Кастусю за ўвагу да нашага выдання, за шчырыя словы, за пажаданні, за імкненне раздзяліць нашы праблемы і памножыць нашы святы. Спадзяёмся, што хутка прыйдзе той час, калі ўсе беларусы разам знойдуць цуда папараць-кветку і зажывуць у сваёй краіне з Богам!

*Супрацоўнікі "ВГ"*

### АБСЕ забараніла смяротнае пакаранне ва ўсім свеце

9 ліпеня Парламенцкая Асамблея Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая праводзіла сваё 10-е пасяджэнне ў Парыжы, прыняла рэзалюцыю аб забароне смяротнага пакарання. Рэзалюцыя распрацавана камісіяй АБСЕ па дэмакратыі, правах чалавека і гуманітарных пытаннях. Прагаласавалі за яе аднагалосна.

### Чыгір не баіцца пройгрышу

Магчыма, кандыдат у прэзідэнты Беларусі М. Чыгір у выпадку перавыбрання цяперашняга кіраўніка на другі тэрмін пакіне палітычную дзейнасць і вернецца ў бізнес. Пры гэтым ён не збіраецца выязджаць з Беларусі ні ў якім выпадку.

*К.Увараў, Бела ПАН*

## Цукровыя праблемы

Першы тыдзень ліпеня для глыбачан адзначыўся новай праблемай: той, хто вырашыў варыць варэнне і не назапасіў цукру, бегаў па крамах і шукаў яго. А час самы на трускалкі, чарніцы, парэчкі. Калі нейкі тавар трапляе ў разрад дэфіцытных, усплывае такое паняцце, як блат. Цукар дзе-нідзе куплялі «па блату».На сёння цукровая праблема вырашана: былі б грошы. Дбайныя гаспадыні на зіму без салодкіх нарыхтовак не застануцца.

*М.Ясюкевіч*

*Фота Уладзіміра Скрабатуна*



*Глыбокае святкуе. Дзень моладзі 2001*

### Сямён Домаш: *Беларусь павінна разумна выкарыстоўваць сваё геапалітычнае становішча*

Такую кропку гледжання выказаў адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост Сямён Домаш, які выступіў на III-ім з'ездзе беларусаў свету ў Мінску. "Калі рэалізуецца ідэя Беларусі як заможнай еўрапейскай краіны, то яе грамадзяне будуць мець магчымасць чытаць Купалу, Коласа, Быкава па-беларуску, каталог "Фольксваген" – па-нямецку, а праспект "Майкрасофт" – па-англійску, — сказаў С. Домаш. На з'ездзе прысутнічалі У.Ганчарык, В. Цярэшчанка, А. Ярашук.

*Па матэрыялах рэспубліканскага друку*

### Цытата першай паласы

Не мудрёной, не тайной наукой,
Проще самой простой простоты –
Унижением, страхом и скукой
Человека низводят в скоты.

*И.Губерман*

### Пераможцы конкурсу

У конкурсе на лепшае сачыненне, вершы, апавяданні па тэмах "Беларусь – мая бацькаўшчына" і "Што я ведаю пра беларусаў у свеце", які быў абвешчаны да трэцяга з'езда беларусаў свету, што адбыўся 5-6 ліпеня, прынялі ўдзел больш за сотню школьнікаў з Беларусі і нават з Літвы. Вельмі прыемна, што сярод пераможцаў ёсць і прадстаўнікі Глыбоччыны – **Алена Бародзіч** (СШ№2 г. Глыбокае) і **Станіслаў Асон** (в. Карабы – 2). Ад душы віншуем пераможцаў, а яшчэ мы ганарымся падрастаючай нацыянальна свядомай зменай, за якой будучыня Беларусі.

*Н.Кнорына*

## *Віншуем з юбілеем*



***У канцы чэрвеня старшыні аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзька споўнілася 40 год. Супрацоўнікі "Вольнага Глыбокага" віншуюць Анатоля з юбілеем, жадаюць моцнага здароўя, настойлівасці, упэўненасці ў сабе і ў распачатай справе, дабрабыту і шчасця.***

### У ліпені прайшоў III з'езд беларусаў свету

З'езд адбыўся 5-6 ліпеня ў Мінску. Дакументы, якія планавалася прыняць на форуме, аб'ядноўвалі дзве ідэі – дэмакратычныя каштоўнасці гістарычнага шляху, пройдзенага беларускай нацыяй, а таксама існаванне і развіццё беларускай дзяржаўнасці.

*М.Гаравы*

### Глыбачане супраць мінчан

7 ліпеня на стадыёне ў вёсцы Шуневічы, што ля Глыбокага, адбыўся футбольны матч паміж зборнай камандай ветэранаўаматараў глыбачан і зборнай камандай урада і парламента. У складзе апошняй каманды пад шостым нумарам гуляў дэпутат Глыбоччыны В.Хрол. Гол быў забіты у першым тайме ігракамі са сталіцы. Лік матча – 0:1 на карысць гасцей.

*В. Саланінка*

### *Адным радком*

- Былы галоўны "завхоз" Беларусі Іван Ціцянкоў папрасіў палітычнага прытулку ў Германіі.
- У $16^{30}$ 3 ліпеня каля дома №16 па праспекце Скарыны ў Мінску 45-цігадовы мінчанін, былы дэпутат Мінскага гарсавета Сяргей Лапцеў, кінуў у бок удзельнікаў забегу, сярод якіх быў і цяперашні кіраўнік краіны, памідор.
- З касы Гродзенскай філармоніі невядомыя скралі шмат білетаў на канцэрт Алы Пугачовай, які павінен адбыцца 17 ліпеня.
- Былы прэм`ер-міністр Беларусі, а зараз прэтэндэнт на пасаду кіраўніка дзяржавы Міхаіл Чыгір адмовіўся ад запрашэння А.Лукашэнкі на ваенны парад у Мінску 3 ліпеня.
- 1 ліпеня на адпачынак у Польшчу адправіліся каля 40 дзяцей з Мёр, Полацка і Віцебска. Арганізатарам паездкі з нашага боку выступіў Саюз палякаў Беларусі.

Народ і права выбара

# Хто каго?

Па дадзеных Цэнтрвыбаркама заявы на ўключэнне ў барацьбу за прэзідэнцкі пост на 20 чэрвеня падалі ініцыятыўныя групы 25-ці прэтэндэнтаў. Амаль адразу двое прэтэндэнтаў былі забракаваны. Было зарэгістравана 22 ініцыятыўныя групы. У пачатку ліпеня зняла сваю кандыдатуру Наталля Машэрава. Для тых, хто думае, што ў Беларусі няма актыўных, ініцыятыўных, граматных людзей акрамя цяперашняга кіраўніка, прадстаўляем увесь спіс прэтэндэнтаў.

Дырэктар Міжнароднага інстытута менеджмента **Віктар Цярэшчанка**; лідэр Ліберальна-дэмакратычнай партыі і блока «Новая Беларусь – Адзінства» **Сяргей Гайдукевіч**; першы міністр абароны РБ **Павел Казлоўскі**; лідэр арганізацыі «Рэгіянальная Беларусь» **Сямён Домаш**; лідэр партыі камуністаў Беларусі **Сяргей Калякін**; лідэр Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ **Зянон Пазняк**; цяперашні кіраўнік краіны **Аляксандр Лукашэнка**; віцэ-прэм`ер Міжнароднай асацыяцыі «Абарона правоў чалавека» **Мікалай Мекека**; былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта і былы віцэ-прэм`ер **Леанід Сініцын**; Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Латвіі, па сумяшчальніцтву ў Эстоніі і Фінляндыі **Міхаіл Марыніч**; кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі **Уладзімір Ганчарык**; лідэр арганізацыі «Рабочая самадапамога» **Сяргей Антончык**; старшыня рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу **Аляксандр Ярашук**; інжынер, юрыст, часова беспрацоўны **Канстанцін Кананові**ч; прадпрымальнік, афіцэр запаса КДБ **Валянцін Семак**; былы прэм`ер міністр **Міхаіл Чыгір**; генеральны дырэктар ЗАО «Атлант» **Леанід Калугін**; дэпутат Мінгарсавета, прадпрымальнік **Юрый Данькоў**; дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Сяргей Скрабец**; старшыня стачкама прадпрымальнікаў **Валерый Леванеўскі**.

Кожны з 20-ці прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла лічыць сённяшні курс, палітыку і яе формы ажыццяўлення няправільнымі. І гэта пра многае гаворыць. Зразумела, што да 9 верасня з гэтых прэтэндэнтаў застанецца 5-10. І ўсё ж выбар будзе. Трэба толькі больш чытаць, аналізаваць, раіцца. Чытайце незалежную прэсу і Вы будзеце ў курсе ўсіх спраў, што адбываюцца ў краіне напярэдадні выбараў.

*П.Жарэйкін*

Жыццёвыя гісторыі

# Калі з партфелем, то начальнік?

Неяк аднойчы пайшла я ў дзяржаўную ўстанову па пытаннях арэнды памяшканняў. Сустрэлі мяне там па-нашаму: на хаду, падазронна, беспардонна. Быццам я міласціню прыйшла прасіць, а не грошы прапаноўваць у абмен на памяшканне. Паколькі я чалавек, які ўсё імкнецца ведаць дэталёва і даводзіць справу да лагічна-разумнага канца, то шмат перапытвала, бо шмат чаго са сваёй вышэйшай адукацыяй зразумець не магла. Калі ж я ў адказ пачала прыводзіць артыкулы закона, то выклікала злосць кіраўніка.

Паколькі размова ішла ў кабінеце, дзе было яшчэ шмат людзей, і яны сталі сведкамі размовы, то адзін мужчына паджылога ўзросту, у плашчы, пры капялюшыку і з папкай пад пахай раптам паспрабаваў сыграць ролю вялікага начальніка. Рашыўшы, што для гэтага хопіць старога паношанага капялюшыка і папкі пад пахай, ён строга, амаль з крыкам, звярнуўся да мяне: "Не хочаце браць на нашых умовах – не бярыце. Мы тут гаспадары і нечага нам законы цытаваць". Я паглядзела на яго сур'ёзны выгляд. Спачатку захацела засмяяцца: мужчынка перайграў. Стаў на бок кіраўніка арганізацыі так лісліва-паказушна, што не прыкмеціць гэтага не змог бы толькі сляпы.

А пасля стала сумна: "Гэта ж хто намі стараецца кіраваць, гаспадарыць? Той, хто лічыць, што для таго, каб быць начальнікам хопіць старога капелюша, моцнага голасу і папкі пад пахай? А як жа наконт адукаванасці, элементарнай этыкі, эрудыцыі? Гэта, каб і хацеў, не кожнаму дадзена.

Каб падобны "форцель" выкінуў малады работнік, можна было б зразумець – розум яго яшчэ ў ніжняй патыліцы, на якой сядзяць. А тут – пасівелы чалавек.

Я вельмі ветліва растлумачыла яму і ўсім прысутным, што чалавек, які ведае шмат, не вораг астатнім, што чалавека, які сам нясе грошы, трэба сустракаць усмешкай, а не крыкам, што я не лічу начальнікам таго, у каго ёсць папка пад пахай і капялюш на пустой галаве…

Усе слухалі мяне моўчкі. Ніхто не запярэчыў. Калі я выходзіла, мужчына ў капелюшы патупіў позірк. Мне стала яго шкада. Яму проста ніхто ніколі нічога не тлумачыў…

*Галіна Сутула*

### Памёр Віктар Ламака

Магчыма, не ўсе ведаюць хто такі Віктар Ламака, але ўсе не раз бывалі ў дэндрапарку, захапляліся яго хараством і прыгажосцю. Дык вось, гэты зялёны цуд створаны па ініцыятыве і пры актыўным удзеле Віктара Ламакі. У пачатку гэтай вясны, на 91-ым годзе жыцця, Віктара Антонавіча не стала. Але засталіся вынікі яго працы і яго душа ў кожным дрэўцы дэндрапарка.

*Т.Вяліцкі*

### Думаў, што надта «круты»

Выпускнік Андронаўскай базавай школы Пастаўскага раёна, жыхар вёскі Васіліны Андрэй Ф. трапіў на два гады ў турму. Напярэдадні 8 сакавіка ў чорнай масцы ноччу ён уварваўся ў хату пенсіянеркі, душыў яе і абяцаў спаліць хату. Перапужаная жанчына аддала злодзею ўсю пенсію -- 40 тысяч рублёў.

### Чэрвеньскія трагедыі

24 чэрвеня на дарозе Дзісна – Касьяны ў Шаркоўшчынскім раёне вадзіцель "Фольксвагена" не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і даўся ў дрэва. У выніку дзве пасажыркі шпіталізаваны, трэцяя памерла па дарозе ў бальніцу. У той жа дзень у Пастаўскім раёне матацыкліст даўся ў дрэва і пераламаў галень і ключыцу. У пасажыра, вучня дзевятага класа, чэрапна-мазгавая траўма. Абодва зараз у бальніцы.

Добрае надвор'е "цягне" на дарогу і вадзіцеляў аўтамашын, і матацыклістаў, і веласіпедыстаў. Не "гуляйце" з хуткасцю, будзьце ўважлівыя – беражонага Бог беражэ.

*М.Ясючэня*

### Прэзідэнту Латвіі павялічылі заробак

Латвійскі парламент вырашыў павялічыць заробак прэзідэнту краіны да 2 тысяч латаў( 4 тысячы долараў) у месяц, а гэта ў два разы больш. Акрамя таго Вайра Віке-Фрэйберге штомесяц будзе мець па 400 латаў «прадстаўнічых». Гэта не ўключаючы аплаты рэзідэнцыі, паездак, аўто, аховы... Трэба сказаць, што гэта не самая крутая зарплата ў краіне. Так, прэзідэнт Банка Латвіі Э.Рэпшэ мае 6 тысяч латаў у месяц, шэф Агенства прыватызацыі Я. Нагліс--2.200 латаў. Самае цікавае, што ў Латвіі зусім не сакрэт колькі зарабляе прэзідэнт. А ці ведаюць беларусы колькі мае штомесяц іх кіраўнік?

*Ж.Новачак*

### Збор подпісаў працягваецца

У Беларусі працягваецца збор подпісаў за верагодных кандыдатаў у прэзідэнты. На 11 ліпеня лідэрамі гэтай гонкі з'яўляліся Уладзімір Ганчарык, які набраў 105000 подпісаў і Сямён Домаш – 100000 подпісаў. Ініцыятыўная група Міхаіла Чыгіра сабрала 80000. Але імі сцвярджаецца, што да 20 ліпеня неабходны мінімум будзе сабраны.

На Глыбоччыне подпісы збіраюць ініцыятыўныя групы С.Домаша, С.Калякіна, Л.Сініцына і А.Лукашэнка. За Сямёна Домаша на сённяшні дзень аддала свае подпісы больш як тысяча глыбачан і жыхароў Глыбоцкага раёна.

*Я.Берніковіч*

Думай, галава!

# Для чаго патрэбны выбары?

Вядома, што выбары праводзяцца не для таго, каб выкінуць на вецер мільярды рублёў. Яны арганізуюцца, згодна Канстытуцыі, каб даць магчымасць усім грамадзянам краіны паўдзельнічаць у кіраванні краінай. Выбары даюць магчымасць сфарміраваць заканадаўчыя і выканаўчыя органы краіны, а нам усім права самім выбраць уладу, якой можна даверыць лёс. Усе мы добраахвотна галасуем за тых прадстаўнікоў, якія, лічым, кампетэнтныя, граматныя, клапатлівыя. Мы перадаём ім частку сваіх правоў вырашаць за нас усе грамадскія і дзяржаўныя праблемы. Такім чынам, сфарміраваныя органы ўлады павінны абараняць інтарэсы грамадзян, якія за іх прагаласавалі.

Выбары дазваляюць грамадзянам кантраляваць работу ўлад. Галасуючы за таго ці іншага кандыдата, мы фактычна наймаем яго на службу на пэўны тэрмін, даём яму магчымасць працаваць. Калі ж абраны не абараняе інтарэсы выбаршчыкаў, апошнія маюць права датэрмінова перабраць яго.

Так робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце. А што ж у Беларусі? У нас не працуе закон «аб мясцовым самакіраванні». Нас пазбавілі магчымасці выбіраць мясцовыя органы кіравання, пачынаючы са старшынь райвыканкамаў. Старшынь на пасаду зацвярджаюць у рэспубліцы, тым самым ім даюць зразумець, што адказваюць яны не перад сваімі землякамі, а перад асобай, якая міласціва распісалася пад загадам на прызначэнне. Дзівіцца адно: няўжо мы на месцах горш ведаем людзей, чым у далёкай сталіцы? Здавалася б, бяскрыўдная прызначэнне цягне за сабой цэлы шлейф праблем і непаразуменняў. Добра, калі той жа старшыня чалавек сумленны, з устойлівым імунітэтам перад званнямі, чынамі, акладамі. А калі не? Тады мясцовыя жыхары, якім так «аблегчылі» жыццё пазбавіўшы права выбару, застаюцца сам-насам з уласнымі праблемамі, бо ўлады часцей вырашаюць



свае прыватныя інтарэсы, якія вельмі часта не супадаюць з інтарэсамі большасці.

На Беларусі ператвораны ў фарс і выбары рэспубліканскай улады. Кіраўнікі ад першага да ніжэйшага лічаць сябе асобамі недатыкальнымі, што аформлена заканадаўча. Людзям гадамі ўбіваецца думка, што ўлады нельга крытыкаваць, што ўладу можна толькі хваліць, складаць і спяваць ёй оды, схіляцца перад ёй у паклоне. За кожную дробязь, што зробяць уладныя чыны, трэба дзякаваць. Ці трэба? Ідзе падмена паняццяў. Прадстаўнікі ўлады, як і ўсе звычайныя беларусы, маюць правы і абавязкі. Ні ў якім разе нельга лічыць своечасовую выплату зарплат і пенсій заслугай чыноўнікаў -- гэта іх непасрэдны абавязак. Сацыяльныя выплаты, дапамогі -- гэта таксама абавязак дзяржавы, замацаваны Канстытуцыяй. У Беларусі ж пенсіянеры моляцца на таго. хто ў час дае ім грашы пенсіі, баяцца, каб гэтыя слёзы не аднялі. Зразумейце: адняць у чалавека пенсію, на якую ён працаваў 30-40 год-- гэта злачынства, яго нельга апраўдаць ніякай эканамічнай нестабільнасцю. Калі зацяжная, хранічная нестабільнасць у краіне, значыць, кіраўнік не адпавядае пасадзе, ён не кампетэнтны, не здольны вырашаць падобныя праблемы і, калі ён мае гонар і сумленне, павінен сысці, уступіць месца больш таленавітаму. Да прыкладу, калі на прадпрыемстве нехта не спраўляецца з работай, яго або звальняюць альбо пераводзяць на пасаду менш адказную. Нашы ж кіраўнікі хоць не могуць кіраваць, а за пасады чапляюцца рукамі і нагамі. Ведаеце чаму? Таму што акрамя няздольнага кіравання яны больш нічога не ўмеюць. Працаваць на той жа вытворчасці сёння, абкладзенай, як воўчы загон, чырвонымі сцяжкамі «нельзя», не проста. Гэта не рэкамендаваць з высокіх трыбун. Не лягчэй у сельскай гаспадарцы, у школах, бальніцах. Акрамя балбатні патрэбен вопыт, настойлівасць, талент выжываць у гэтыя «смутные времена». Зрабіўшы цяперашні час «смутным временем», нашы ўпраўленцы стаяць ля мікрафонаў з тварамі, на якіх застыла спачуванне нам, усяму беларускаму народу, які так лёгка лепіцца, падаецца лухце, які трывае і спадзяецца ўжо сам не ведае на што. Нам сапраўды трэба спачуваць, бо мы не здольны самі вырашаць свой лёс, браць адказнасць на сябе. Гэта добра бачна пасля кожных выбараў: гавораць людзі адно, а да скрынак для галасавання ідуць не як асобы, не як грамадзяне сваёй краіны, а як статак атлумленых баранаў, з пачуццём страху аказацца на бойні.

І ўсё ж хочацца спадзявацца, што беларусы не дурней за палякаў, немцаў, латышоў, літоўцаў, што яны змогуць у верасні абраць уладу, годную сябе.

*Г.Сутула, старшыня Глыбоцкага аддзялення БХК*

**За чэрвень у Глыбоцкае аддзяленне БХК за прававой дапамогай звярнуліся 10 чалавек.**

# Мець правы ці жыць бяспраўнымі?

**I. Ні грошай, ні хаты**

Дзе б чалавек ні аказаўся па волі лёсу, яго цягне на радзіму. Т.М.Жынгель даўно жыве ў Эстоніі, але ў 1990-ым годзе захацела пабудаваць хату ў Глыбокім. Заключыла дамову з МПМК – 48, што ў г.п. Падсвілле, згодна складзенай смеце заплаціла, з яе слоў, каля 30 мільёнаў рублёў на цяперашнія грошы. МПМК – 48 наймае для ўзвядзення хаты субпадрадчыка – кааператыў "Фасад", сіламі якога быў зроблены фундамент. Далей справа не пайшла, бо будучая гаспадыня, а затым кампетэнтныя камісіі з дзяржархбудкантролю прызналі, што работа зроблена цяп-ляп, якасць яе не адпавядае прынятым стандартам. Члены кааператыва "Фасад", дарэчы, самі прызналі гэта, выступаючы на судзе ў



сведак па ўзбуджанаму грамадзянскаму іску. Апісваць, што вырашыў суд, як адрэагавала МПМК – 48 на прынятае рашэнне вельмі доўга. Скажам, што за 11 год Тамара Міхайлаўна Жынгель абышла ўсе інстанцыі, дайшла да Адміністрацыі Прэзідэнта, да Вярхоўнага суда. Праўды жанчына не знайшла і ў вярхах: засталася і без грошай, і без хаты. Жыхарка Эстоніі, якая прывыкла да цывілізаванага жыцця і лагічна-разумных законаў, рашылася пікетаваць будынак Вярхоўнага суда з мэтай абароны правоў спажыўцоў. Як і трэба, за 15 дзён падала неабходную заяву на правядзенне акцыі пратэсту. Мінгарвыканкам (№9 – 3465 ад 13.06) дазволу на падобны пратэст не даў. Магчыма, чыноўнікі палічылі, што парушэнняў тут ніякіх няма. Магчыма, падумалі, што няма прычыны пікетаваць ля будынка ажно Вярхоўнага суда – падумаеш, страціла нейкія 30 мільёнаў... Не думаю, што праваабаронцы, тым больш грамадскія, здольны нечым дапамагчы. Проста хочам папярэдзіць іншых занадта даверлівых беларусаў: гульня з дзяржавай – рэч не толькі небяспечная, але і безвыніковая. Закідае дзяржава адпіскамі, а то яшчэ чаго добрага зробіць Вас вінаватымі.

**II. "Зачытайце, калі ласка, увесь спіс"**

18 чэрвеня сябра Глыбоцкага аддзялення БХК з Пастаў Ластоўская Лідзія Паўлаўна трапіла на пасяджэнне выканкама, дзе ішло фарміраванне раённай выбарчай камісіі. Ніхто не даваў інфармацыю аб колькасці пададзеных заяў, ніхто не абмяркоўваў кожнага прэтэндэнта, ніхто не называў прычын адмовы – проста зачыталі загаддзя падрыхтаваны спіс і ўсё. Вось такое "дэмакратычнае" вылучэнне было. Калі казаць пра Глыбоччыну, то шляхам збору подпісаў у члены раённай выбарчай камісіі прэтэндавала загадчыца грамадскай прыёмнай Глыбоцкага аддзялення БХК Мартыноўская Г.Л. і былая настаўніца Трызна Т.Р. Глыбоцкія ўлады праваабаронцаў у сваю "кампанію" не ўзялі. Мясцовыя чыноўнікі, напэўна, проста не ведаюць ніякіх грамадскіх арганізацый акрамя БПСМ і Савета ветэранаў. 25 чэрвеня ўсіх членаў ужо сфарміраванай раённай (Глыбоцкай) выбарчай камісіі запрашалі ў Віцебск на інструктаж. Грамадскіх назіральнікаў ад БХК, ад БНФ на пасяджэнні не дапускаюць. І гэта на першапачатковым этапе. А што будзе далей?

А далей будзе прававое бязмежжа, ранейшы падман і імкненне да пастаўленай вярхамі мэты

Ужо 21 чэрвеня пад праліўным дажджом па хатах хадзіла супрацоўніца выканкама, збірала подпісы за самага галоўнага кандыдата краіны. У роспачы жанчына прызналася, што перад імі была пастаўлена ўмова: "Калі хочаце працаваць у выканкаме, да 25 чэрвеня трэба сабраць кожнаму па 70 подпісаў за цяперашняга кіраўніка краіны". А хто ж супраць працаваць у выканкаме? На сёння гэта тое месца, дзе своечасова плоцяць заробак, плоцяць не 20-30 тысяч, а нашмат больш, гэта прывілеі...

Можам "парадаваць" выбаршчыкаў і тым, што была ўстаноўка махнуць на горад рукой: няхай галасуюць як хочаць, а вось на сяле трэба дабіцца 70-80% "за" цяперашняга кіраўніка. Зачытаюць улады спіс і пайшлі брацца за сялчаніна. А што яго, бедалагу, пужаць? Скажы: "Сена не дам, пашы не дам" і голас у кішэні.

Час ідзе. Да выбараў засталося цэлага нічога. Так што "зачытайце, калі ласка, увесь спіс", паважаныя ўлады.

**III. Суседская драма**

9 чэрвеня ў грамадскую прыёмную звярнулася жыхарка вуліцы Чырвонаармейскай Тамчонак Р.Ф. Яна са слязьмі на вачах паведаміла, што 3 чэрвеня яе збіла суседка, прычым, не толькі збіла, але і павырывала на галаве валасы. Раіса Фёдараўна напісала заяву ў пракуратуру, пабывала ў судмедэкспертызе, напісала заяву ў міліцыю. Паколькі адчувала сябе яна вельмі дрэнна, мы паралі легчы ў бальніцу, што і было зроблена.

У ліпені адбыўся суд. Штрафы былі прысуджаны як Тамчонак Р.Ф., так і яе крыўдзіцельцы. Тамчонак Р.Ф. з рашэннем суда не згодна і мае намер дабівацца праўды далей.

***Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК***

**Як у ваду глядзеў**

Мы варимся в странном компоте,
Где лгут за глаза и в глаза,
Где каждый в отдельности – "против",
А вместе – решительно "за".

*И.Губерман*



**Праваабарончая старонка «СЛОВА НАРОДУ» Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта**

Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення **БХК** па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з $16^{00}$ да $19^{00}$. Тэлефоны ў Глыбокім: **21938, 23754**

## Перадвыбарны марафон

Па словах старшыні Цэнтрвыбаркама Л.Ярмошынай, тэрытарыяльныя камісіі сфарміраваны ў адпаведнасці з законам і "аб'ядналі людзей нейтральных, незалежных і аўтарытэтных".

Да катэгорыі "нейтральных, незалежных і аўтарытэтных" адносіцца і старшыня раённай выбарчай камісіі Шаркоўшчынскага раёна Дзіковіч Л.В., якая з'яўляецца кіраўніком спраў Шаркоўшчынскага райвыканкама. Шчаслівы чалавек, яна нават ані не падпарадкоўваецца Морхату М.В., старшыні райвыканкама, мае свае пазіцыі, настойліва іх адстойвае. Смех ды годзе! У складзе раённай выбарчай камісіі па Шаркоўшчынскаму раёну няма ніводнага рабочага, калгасніка. Усе – людзі пры пасадах, якія ў рот глядзяць раённай "вертыкалі" і бягуць спаўняць усе яе загады. Да гонару шаркоўшчынскіх улад, у складзе камісіі ёсць юрыст. У Глыбоцкай раённай выбарчай камісіі юрыста няма. Яго, напэўна, заменяць інструкцыі Л.Ярмошынай, на якую увесь час спасылаюцца чыноўнікі.

Калі казаць пра Браслаўскі раён, то ў раённай выбарчай камісіі там таксама «незалежныя» ад улады людзі. Мяркуйце самі: старшынёй выбарчай камісіі абраны кіраўнік справамі выканкама П.К.Урбановіч, сакратаром - загадчык агульнага аддзела райвыканкама А.С.Палягошка. Абодва прадстаўнікі вылучаны ад аднаго і таго ж калектыва шляхам збору подпісаў.

На Мёршчыне старшынёй раённай выбарчай камісіі абраны старшыня раённага Савета дэпутатаў Ч.С.Какшур, сакратаром -- кіраўнік справамі райвыканкама Р.Ф.Парфёненка.

У Докшыцкім раёне старшынёй выбарчай камісіі абрана кіраўнік справамі раённага выканаўчага камітэта Н.М.Шарко, сакратаром -- галоўны спецыяліст Докшыцкага Савета дэпута таў Л.І.Ждановіч. Самыя «незалежныя» ад уладаў людзі.

Аналізуючы склады раённых выбарчых камісій па ўсяму паўночна-заходняму рэгіёну, прыходзіш да высновы: ніводзін іншадумец, «чужы» па духу у камісіі не трапіў. У камісіях «незалежная» ўлада на ўладзе і ўладай падганяе. Ва ўсіх раёнах у складзе камісій па 13 чалавек (па закону можна 9 -- 13), а гэта не што іншае, як нядобры тузін. Якія справы яна будзе тварыць, каб здагадацца -- розуму вялікага мець не трэба.

У складзе ні адной раённай камісіі няма сяброў Таварыства беларускай мовы, прадаўжальнікаў справы Льва Сапегі, прадстаўнікоў праваабарончых арганізацый, палітычных партый. У Браслаўскім раёне, напрыклад, Я.А.Ермалаевай адмовілі па прычыне быццам бы адсутнасці вопыту. Вопыту фальсіфікацый жанчына сапраўды не мела, а «стаж» назірання за трыма выбарчымі працэсамі вялікі. Гэта не спатрэбілася. У Глыбокім ні на адзін запыт праваабаронцаў выканкам не даў пісьмовага адказу. Адгукнулася толькі глыбоцкая пракуратура. Маўчанне -- яскравае сведчанне таго, як улада паважае сваіх землякоў, рупліўцаў на ніве адраджэння, як паважае тых, дзеля каго ўлада створана і на чые грошы існуе.

Адзінае, што суцяшае: магчыма, нашы ўладныя прадстаўнікі на самой справе думаюць зусім не так, як робяць. Бо калі справы іх падкантрольныя вярхоўнай «вертыкалі», то думкі і пачуцці ніякі вярхоўны рэвізор пракантраляваць не зможа.

Да выбараў засталося менш двух месяцаў...

*М.Пабядзінскі.*

*Радкі з канвертаў*

## «Я думаю, што са мной усе згодны»

На мінулым тыдні наш працоўны калектыў "падэмакратычнаму" вылучаў прэтэндэнтаў у члены ўчастковых выбарчых камісій. На гэту "святую справу", па словах кіраўніка, павінны былі прыйсці ўсе супрацоўнікі да аднаго. Прыйшлі і сталі сведкамі спектакля, у галоўных ролях якога былі марыянеткі, што агучвалі нечыя словы. Кіраўнік даў слова свайму намесніку, а той завучана сказаў: "Я прапаную пакінуць ранейшых членаў участковай выбарчай камісіі, бо яны спраўляліся, у іх ёсць вопыт. Думаю, што ўсе згодны са мной і іншых прапаноў не будзе". Калектыў, які хапае ўсё з паўслова, апошнія словы прыняў, як інструкцыю: "не павінна быць іншых прапаноў, значыць, і не будзе". Але прапанова была вылучыць у склад участковай выбарчай камісіі зусім іншага чалавека, а не кіраўніка ўстановы. Дружна прагаласавалі за першую прапанову, а другую нават не паставілі на галасаванне. Затое альтэрнатыўнага прэтэндэнта пасля "святой справы" запрасілі ў кабінет адміністратара. Што яму там гаварылі – невядома, але чалавек не захацеў больш вылучацца нікуды.

Усё прайшло хутка, гладка, па напісанаму зверху сцэнарыю. Інакш і быць не магло, бо гэтая тэатральная дзея адбывалася ў калектыве, які ўзначальваў дэлегат Усебеларускага з'езда, свой у дошку чалавек для ўлад. Магу здагадацца, што падобныя дзеі пройдуць і ў іншых працоўных калектывах. Робіцца брыдка, што нас агулам лічаць скацінай, выстаўляюць адзін перад адным круглымі дуракамі, нахабна робяць тое, што зажадаецца, аб працоўнага чалавека выціраюць ногі. Гэтае раздваенне, калі на словах гладка, а на справах калдобіста, горш усяго. Яшчэ горш тое, што большасць людзей не разумее, як яна агулам дэградуе, паддаючыся жывёльнаму страху. На жаль, выціснуць з сябе раба не так і проста. І ўсё ж можна. Трэба. Інакш мы ніколі не ўзнімемся з калень.

*З павагай Ваш чытач Алег Іосіфавіч.*

### З блакнота публіцыста

Аднойчы Сярожа прысеў побач і нясмела запытаў:

-- Мамачка, а ў нас ёсць грошы?

-- Крыху ёсць, -- кажу, -- на ежу і табе на новыя чаравічкі.

-- А можна я пахаджу ў старых, а ты мне купі..., -- ён замаўкае, не адважваецца працягваць.

-- Што?

-- Цацку?

# Мы і дзеці

-- Не, -- удакладняю.

-- Ды не. Можна ты мне купіш брацікa?

Апошняе словы выгаворвае хуценька-хуценька, каб не даць мне магчымасці сказаць сваё.

-- Я табе буду дапамагаць спавёнкі мыць, няньчыць яго. А ён як падрасце, ты для нас казкі і вершы складаць будзеш.

Часам дзіця скажа тое, аб чым стараешся не думаць... Але ж жыццё рэч складаная...

Паспрабавала тлумачыць, як гэта няпроста нарадзіць, гадаваць, выхоўваць.

-- Табе, сынок, увагі менш змагу ўдзяляць. І ласкі больш меншаму выпадзе, і цукерка якая -- яму.

-- Мамачка, ты ж казала, што я ўжо дарослы. А ад цукерак зубы псуюцца... І любіць ты мяне будзеш усё роўна, -- не здаваўся сын.

-- Ну што ж, тады трэба збіраць грошы, -- сур`ёзна заключыла я, і сын з палёгкай уздыхнуў.

Ішоў час. Размова даўно засталася ў дні ўчарашнім, але Сярожа пра яе не забыўся. Больш таго, грошы, якія я давала яму на пячэнне ці сокі, ён зберагаў і прыносіў мне.

Мы разам збіралі на браціка.

*Галіна Сутула*

# Жыццё і смерць вядомых людзей

***30 чэрвеня 1998 года ў адной з маскоўскіх бальніц памерла Галіна Брэжнева, дачка былога Генеральнага сакратара КПСС.***

Галіна Леанідаўна была супярэчлівай і легендарнай асобай. Многія лічылі яе спекулянткай, злодзейкай, выпівохай -- сімвалам эпохі застоя і брэжнеўскага маразма. У памяці іншых яна засталася той рэдкай жанчынай, якая магла кахаць неверагодна. Яе паводзіны, мужы і палюбоўнікі былі прадметам абгавораў яшчэ пры савецкай уладзе, а пасля і таго больш.

Апошні раз Галіна Брэжнева з`явілася на людзях 8 сакавіка 1984 года. Генеральны сакратар Ю.Чарненка запрасіў яе на прыём у Крэмль. На касцюме Брэжневай красаваўся ордэн Леніна, які ўціхую ўручылі ёй у 1978-ым годзе ў якасці падарунка да 50-годдзя. У 1988 годзе арыштавалі Ю.Чурбанава, намесніка міністра ўнутраных спраў і мужа Галіны. Яго асудзілі на 12 год строгага рэжыму. Галіна нават не прыйшла на суд. У 1990 годзе яна падала іск на сямейную маёмасць, якую канфіскавалі пасля суда над яе былым мужам. Удалося адсудзіць «Мерседес», калекцыю зброі, чучалы жывёл і 65 тысяч рублёў на рахунку ў Ашчадбанку.

Калі Ю.Чурбанаў праз пяць год адсідкі па амністыі выйшаў на волю, то даведаўся, што Галіна з ім развялася.

Да 1995 года Галіна жыла ў сваёй вялікай маскоўскай кватэры. Яна адчыняла дзверы ўсім, хто ў іх званіў. П'яная, недагледжаная яна была аб`ектам для працы расійскіх і замежных фотажурналістаў. Яе апошні ухажор Ілюша, малаграматны механік, быў маладзейшы на 20 год. Асноўным заняткам гэтай пары былі сумесныя п`янкі і бойкі.

У 1995 годзе жыхарам элітнай павярхоўкі надакучылі п`яныя разборкі і прыгоды Галіны. Яны прад`явілі ультыматум яе дачцы і тая адвезла маці ў клініку. Пахавалі Галіну Брэжневу побач з яе маці Вікторыяй Пятроўнай на Навадзявочых могілках.

*Па матэрыялах замежнага друку*

**Здарэнні**

## Маланка забіла статак

Верагодна, што ад маланкі аднachасова загінулі 54 каровы, якія пасліся на востраве возера Асвейскае. Усяго ў статку было 315 галоў. Летам кароў на баржы перапраўляюць на востраў. 2 ліпеня над Верхнядзвінскім раёнам пранеслася бура з навальніцай. Паколькі ветэрынары на месцы гібелі не знайшлі ніякай інфекцыі, вывад адзін: прычынай няшчасця стала стыхія.

*А.Пукшанскі*

# Сустрэча ў Глыбокім

**1 ліпеня на сустрэчу з глыбоцкімі прадпрымальнікамі прыехалі кіраўнікі Цэнтра моладзевых ініцыятыў «Контур» з Віцебска Таццяна і Васіль Ігнаценкі і грамадзянін Чэхіі, у нядаўнім мінулым пасол Чэхаславакіі ў Балгарыі, Петр Поспіхал.**

Я желаю Вам, 1.07.2001
чтобы сегодняшние надежды
стали будущем Вашей
жизни

Петр з сямнаццаці год актыўна займаўся палітыкай.Тры гады адбыў у турмах за апазіцыйную дзейнасць. Пасля чэшскай «аксамітнай рэвалюцыі» ён быў адным з саветнікаў прэзідэнта Вацлава Гавела. Наладжваў інфармацыйны абмен паміж краінамі Усходу і Захаду. Займаўся дыпламатычнымі справамі. У апошнія гады аказвае кансультатыўную дапамогу палітыкам, распрацоўвае і ажыццяўляе праекты, накіраваныя на развіццё бізнесу, шмат падарожнічае і перадае свой багаты вопыт ініцыятыўным людзям, прадпрымальнікам, ад якіх у многім залежыць эканамічная стабільнасць краіны. Добра размаўляе і чытае па-руску, усё разумее па-беларуску. Па натуры Петр аптыміст, гаваркі, вясёлы і вельмі прывабны чалавек.

У час сустрэчы з глыбачанамі Петр Поспіхал звяртаў увагу прысутных на тое, што ў Беларусі займацца толькі бізнесам немагчыма. Толькі адстойваючы свае правы, абараняючы свае сем`і, свой прафесійны занятак ад уціску дзяржавы, можна дабіцца пазітыўных зрухаў, прымусіць дзяржаву глядзець на прадпрымальнікаў не як на спекулянтаў, на тарбэчнікаў, што дбаюць толькі пра сваю ўласную выгаду, а як на рэальную сілу, якая здольна ажывіць эканоміку, стварыць новыя рабочыя месцы, развіць і пашырыць сетку паслуг насельніцтву. Да таго ж падаткі, якія плацяць прадпрымальнікі, папаўняюць бюджэт, а значыць, будуць папаўняцца фонды сацыяльнай дапамогі. Чым больш прадпрымальнікаў, тым больш будзе падаткаў. Чым больш падаткаў пойдзе ў казну, тым большыя будуць сацыяльныя выплаты. Зразумець гэта не так цяжка.

Але каб дабіцца павагі ад дзяржавы, трэба ведаць кошт сабе, сваёй працы, ведаць чаго хочаш дасягнуць, якія вынайдзены шляхі ажыццяўлення задуманага. Але гэта ўжо палітыка. Так сталася, што ў Беларусі кожная сфера дзейнасці цесна пераплятаецца з палітыкай. Таму і прадпрымальнікі павінны разумець, што не дабіўшыся палітычных перамен у краіне, нельга чакаць дабра і для сябе.

Глыбоцкія бізнесмены кароценька расказалі гасцям пра свае планы і задумы. Усе яны заслугоўваюць увагі і падтрымкі з боку дзяржавы. Ініцыятыўныя, энергічныя маладыя людзі хочуць змен, хочуць большай свабоды дзейнасці і менш усялякага роду абмежаванняў. І калі да задумак дадаць беларускую працавітасць ды належную падтрымку дзяржавы -- горы можна звярнуць.

Зацікаўленая размова адбылася і пра хуткія прэзідэнцкія выбары. А скончылася сустрэча фотаздымкам на памяць.

Разыходзячыся, глыбачане аднадушна падтрымалі Петра ў тым, што Беларусь павінна стаць эканамічна стабільнай і эканамічна прывабнай для інвестараў, абавязкова прававой дзяржавай з моцна развітымі інстытутамі сацыяльнай абароны насельніцтва, краінай з высокай культурай, у якой бы належна цанілася праца кожнага: і дзяржаўнага служачага, і прыватніка.

Па маёй просьбе Петэр пакінуў у маім журналісцкім блакноце свае пажаданні нам, глыбачанам і беларусам: ***«Я жадаю Вам, каб сённяшнія надзеі сталі будучыняй Вашага жыцця».***

Дзякуем Вам, Петэр, за шчырыя словы і няхай яны збываюцца.

*Г.Сутула*



Хрэсны ход на Святога Міколу ля Вярхнянскай Міхайлаўскай царквы

**Конкурс**

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" праводзіць конкурс школьных і вучнёўскіх газет. Да ўдзелу ў ім прымаюцца ад рэдкалегій ці рэдактараў не менш двух асобнікаў выдання за апошнія 5 год (не менш аднаго з іх за 2001г.). Газеты (брашуры, часопісы і г.д.) могуць мець адвольны фармат і афармленне (ад рукапіснага да камп'ютарнага). Пры падвядзенні вынікаў конкурсу асноўны прыярытэт будзе надавацца тым выданням, у якіх, акрамя добрага афармлення, знойдуць належнае асвятленне пытанні краязнаўства, вырашэнне надзённых праблем сваёй школы, вёскі, раёна.

У кастрычніку журы падвядзе вынікі і запросіць прадстаўнікоў лепшых газет у Мінск, дзе пераможцы будуць ганараваны адпаведнымі дыпломамі, а таксама дыктафонамі, фотаапаратамі.

Д а с ы л а ц ь *да 30 верасня 2001г. па адрасе: 220085, Мінск, пр. Ракасоўскага,98. СШ№2.(На конкурс) Тэл. (017) 248 32 02*

*А.Лозка, прэзідэнт Рэспубліканскага грамадскага аб`яднання «Таварыства беларускай школы»*




Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланікна;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА)
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць два разы на месяц.
Аб`ём -- друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 15 ліпеня 2001 г. у 15-20.

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 4779